*Вас чакаюць на пошце — падпіска на «Народную Волю» блізіцца да завяршэння.*

**№№193–194 (3732–3733)**

11 снежня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

АСОБА

# Крыж Зміцера Дашкевіча

*Зміцер Дашкевіч... Хто не чуў пра гэтага мужнага чалавека! Яму ўсяго 31 год. Тры з іх ён правёў за кратамі, у тым ліку больш за паўгода — у карцары. Недзе з паўгода, калі не больш, — на так званых сутках.*

*Нязломны лідар зарэгістраванага ў Празе (Чэхія) міжнароднага маладзёжнага грамадскага аб'яднання "Малады фронт" нядаўна атрымаў трэці тэрмін — за злоснае парушэнне рэжыму зняволення. Як сведчыць вядомы беларускі дысідэнт, былы савецкі палітзняволены мардоўскіх лагераў Сяргей Ханжанкоў, нават у паслясталінскім СССР вязняў не судзілі за парушэнне рэжыму, а пераводзілі ў ізалятар на 15 сутак, у памяшканне камернага тыпу — да шасці месяцаў, у турму — да трох гадоў ці да заканчэння тэрміну пакарання.*

*Хоць на календары XXI стагоддзе, сённяшняя Беларусь усё больш нагадвае Савецкі Саюз сталінскіх часоў: права беларусаў "людзьмі звацца" мужна адстойвае за кратамі прадстаўнік старадаўняга беларускага шляхецкага роду Зміцер Дашкевіч. Ён сімвалізуе моладзь, якая ахвяруе сабою дзеля Беларусі і з'яўляецца носьбітам волі, веры і сілы. Менавіта гэтыя якасці нараджаюць маладафронтаўскія каштоўнасці свабоды, справядлівасці і салідарнасці.*



## *Нараджэнне*

Сваё нараджэнне Зміцер апісаў так: "У год 1981-ы ад нараджэння Хрыстовага, год абрання на пасаду Рональда Рэйгана, каторы ахрысціў Савецкі Саюз "імперыяй зла", год першага пераводу гадзіннікавых стрэлак у Савецкім Саюзе на летні час, год забароны прафсаюза "Салідарнасць" і абвяшчэння ваеннага становішча ў Польшчы, год, у які габрэі падабраліся бліжэй да Еўфрату, канчаткова абвясціўшы аб анексіі Галанскіх вышынь у Сірыі, адваяваных імі яшчэ ў 1967-м, год стварэння легендарнага рок-гурта "Кіно", вось у гэтыя цікавыя часіны і выпала мне з'явіцца на свет 20-га дня месяца ліпеня.

Няспынны рух па жыцці пачаўся ад самага нараджэння. Спакойна пражываючы ва ўлонні маці дзевяць месяцаў у Магаданскім краі, запатрабаваў я з'явіцца на свет на генетычнай Бацькаўшчыне. З гэтай пазіцыяй бацькі павінны былі лічыцца і таму адправіліся ў падарожжа да родных мясцін. У гэтым шляху і ўбачыў я ўпершыню, дзякуй Богу, не магаданскія вышыні, а краявіды беларускага Палесся. Адбылося гэта на Гомельшчыне, у Ельску, каля якога, у вёсцы Багуцічы, пражываюць мае стрыечныя бабуля і дзядуля, у каторых мы якраз і спыніліся 20 ліпеня. Тата, канешне ж, не мог дапусціць, каб гэта сталася афіцыйным біяграфічным месцам майго нараджэння, бо ёсць надта вялікім патрыётам сваёй малой радзімы — Івацэвіччыны, у якой юрыдычна мяне і прапісаў. Таму афіцыйнае месца майго нараджэння, якое я мушу паўтараць перад пачаткам кожнага судовага пасяджэння, гучыць наступным чынам: вёска Кушняры Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Тое недалёка ад вобласці Гомельскай, і таму я пагадзіўся.

Забяспечыўшы такім чынам мяне фактычным і юрыдычным месцамі нараджэння, бацькі паехалі далей таптаць снягі Магаданшчыны. Першыя свае крокі зрабіў там і я, адклаўшы ў памяці і магаданскія ўзвышшы, і снягі, і кедры. Назад на радзіму бацькі вярталіся напрыканцы 1986 года, хаця і планавалі раней. Аднак абставіны склаліся такім чынам, што выбух чарнобыльскага рэактара мы прамінулі сустрэць, знаходзячыся яшчэ на Далёкім Усходзе. 87-ы ж год мы сустрэлі ўжо ў невялічкім гарадку Старыя Дарогі, што на Міншчыне, дзе я пражыў да 1999 года. У 2000 годзе я пераехаў у Мінск, дзе ў 2001-м далучыўся да дзейнасці "Маладога фронту".

Выбітны беларускі паэт і ўдзельнік апошняй прэзідэнцкай выбарчай кампаніі **Уладзімір Някляеў** назваў Дашкевіча нацыянальным героем, цвёрдым і мужным рамантыкам, гатовым на ўсё дзеля Радзімы. Гэта, на думку Някляева, у Зміцера ад бацькі.

## *Продкі*

Успамінае бацька Зміцера **Вячаслаў Уладзіміравіч**:

— Я раней лічыў, што Зміцеру, магчыма, перадаліся мае гены, бо я ніколі не мог лізнуць там, дзе трэба было брахаць. Але ў Бібліі неяк прачытаў, што гены бацькі могуць знікаць праз пакаленне, а гены маці — вечныя...

Родам я з вёскі Кушняры, што ў шасці кіламетрах ад Івацэвічаў. У нашай сям'і было шэсць сыноў, бацькі займаліся сельскай гаспадаркай, прычым тата лічыўся адукаваным і разумным чалавекам, бо скончыў чатыры класы царкоўнапрыхадской школы. Акрамя таго, ён служыў у польскім войску і так выдатна вывучыў польскую мову, што яго па вымаўленні не адрознівалі ад карэннага варшавяніна. Бацькі жылі някепска, мелі пяць гектараў ворнай зямлі і адзін гектар сенажаці, добрыя сад і пчальнік, а таксама самы вялікі дом у Кушнярах.

Што помніцца з дзяцінства? Па расповедах родных, калі ў верасні 1939 года ў Заходнюю Беларусь прыйшлі саветы, да моста на бальшаку сустракаць Чырвоную Армію сабраліся сяляне з трох навакольных вёсак. Людзі апрануліся ў лепшае, як З

у царкву. І нейкі чырвонаармеец вылез з танка, паглядзеў навокал і сказаў: "А чего это нас одно кулачьё встречает? А где трудовой люд?" Ён, мабыць, лічыў, што працоўныя сяляне не павінны так хораша выглядаць...

Пасля свайго прыходу саветы адчынілі ўсе турмы, дзе было шмат крымінальнікаў. Адзін з іх яшчэ пры паляках нашу хату абакраў: узяў сувой палатна і яшчэ нешта. І на судзе маці назвала тое, што скраў гэты злодзей. Пасля вызвалення з-за кратаў былы крымінальнік прыйшоў да маці і сказаў: "Гэта шчасце тваё, што ты нічога не прыбавіла, а назвала толькі тое, што я ўзяў. Інакш табе была б труба!"

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

# Такая работа, што трэба прывязваць

Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт, які ўжо назвалі "новым прыгонным правам". Усіх работнікаў дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, якія мадэрнізуюцца, перавядуць на незвычайныя кантракты.

Згодна з дэкрэтам, звольніцца да сканчэння гэтых кантрактаў работнікі змогуць толькі ў выпадку, калі іх адпусціць кіраўнік завода. Паспрабаваць абскардзіць гэтае рашэнне можна будзе ў старшыні аблвыканкама. За гэта работнікам дадаткова да прадугледжанай кантрактам зарплаты абяцаюць штомесячныя грашовыя выплаты. Але ў выпадку парушэння работнікамі працоўных абавязкаў і звальнення за благія дзеянні суму атрыманай імі за перыяд работы штомесячнай грашовай выплаты трэба будзе вярнуць.

Сума даплат не агаворваецца. Але наўрад ці дадатак будзе вельмі вялікім, інакш не стаяла б так востра пытанне, якімі мерамі ўтрымліваць людзей. Так, сярэдняя зарплата на "Барысаўдрэве" за апошні месяц складала 2 мільёны 600 тысяч рублёў.

**Генадзь ФЯДЫНІЧ, кіраўнік Незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці:**

— Найноўшая гісторыя такога не ведае. Ніякі эканаміст такога не ведае. Як можна атрымаць незаробленыя грошы? Безумоўна, гэта самае страшнае, што сёння можа адбывацца, калі работнікі заглынуць гэтую прынаду. Тады ім прыйдзецца выплачваць гэтыя грошы, дзе б яны ні былі ў Беларусі. Трэба толькі ў Расію з'ехаць, каб там не плаціць тое, што запатрабуюць потым вярнуць назад. Такога яшчэ ніхто не ведаў. Што тычыцца права прыёму і звальнення, безумоўна, гэта парушэнне Працоўнага кодэкса, парушэнне Канстытуцыі і парушэнне міжнародных канвенцый, якія падпісаў у свой час урад Беларусі.

Юрысты будуць вывучаць дэкрэт Лукашэнкі, які яшчэ каля месяца будзе разглядаць і шукаць прымяненне яму на практыцы беларускі ўрад. Юрысты прафсаюза РЭП таксама правядуць аналіз дэкрэта на прадмет парушэння заканадаўства, Канстытуцыі і міжнародных канвенцый. Пасля чаго інфармацыя будзе даведзена да грамадскасці, у тым ліку да рабочых дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, — падкрэсліў Генадзь Фядыніч.

РЭЗАНАНС

**Аляксандр РУЛЁЎ, рабочы МАЗ:**

— Я расцэньваю для сябе гэта як рабства. Гарантаванае працоўнае месца — гэта добра, калі ў цябе нармальная праца, нармальны заробак і табе падабаецца там працаваць. Калі ж цябе праца не задавальняе і ты знайшоў іншае месца, то як да гэтага ставіцца? Для чалавека абсалютна нармальна сыходзіць туды, дзе лепш плацяць. Як можна плаціць, а потым забіраць тое, што чалавек зарабіў? Гэта абсурд, тым больш у XXI стагоддзі. Калі б мне такое сказалі, то я б адразу падаў заяву на звальненне. Такія дэкрэты абражаюць людзей. У нашай дзяржаве на чалавека не глядзяць як на паўнавартасную асобу ў прамым сэнсе гэтага слова.

**Аляксандр ВАЙЦЕШЫК, бухгалтар Баранавіцкага ААТ "Будаўнічая тэхнічная кампанія":**

— Дэкрэт тычыцца некалькіх прадпрыемстваў, баранавіцкія, дзякуй Богу, туды не ўвайшлі. Але сам дакумент нагадвае чарговы дэкрэт егіпецкага правіцеля, які забараніў абскарджваць яго ўказы. Дэкрэт №9 таксама забараняе скардзіцца. Дэкрэт парушае 41-ы артыкул Канстытуцыі, які гарантуе нам права на працу і забараняе прымусовую працу. А тут яўны прымус. Кожны чалавек хоча мець права ўладкоўвацца на тую працу, якая яго задавальняе. Сама магчымасць забраць грошы заднім чыслом, калі чалавек у выпадку звальнення не верне дзяржаве свой заробак добраахвотна, з'яўляецца яскравым сведчаннем працы пад прымусам. Так можна ў хуткім часе невядома да чаго дайсці... Не ад добрага жыцця людзі звальняюцца, з'язджаюць у пошуках працы ў іншыя краіны. У нас у Баранавічах будаўнікі за свой цяжкі труд атрымліваюць ад двух да двух з паловай мільёнаў. Канешне, масава едуць у Расію.

**Ірына БАРТАШЭВІЧ, стаматолаг з Салігорска:**

— Гэта абсалютна ненармальна. У нас да такой ступені нізкія заробкі, што асабліва няма за што трымацца. Нашы ўрачы з'язджаюць працаваць і ў Расію, і на Захад у паліклінікі. Канешне, хацелася б жыць у сваім любімым горадзе, у сваёй кватэры, а не блукаць па свеце ў пошуках лепшай долі. Далёка не ўсе могуць кінуць сям'ю, дзяцей і паехаць. Але сама забарона на звальненне адразу ставіць людзей перад выбарам. Так нельга рабіць. Тым больш што мы ўсе маем права працаваць там, дзе нам самім хочацца.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПАЛІТВЯЗНІ

## *Мікалая Дзядка перавялі ў турму*

*Мікалай Дзядок знаходзіцца ў крытай турме №4 горада Магілёва. Пра гэта ў панядзелак даведаўся ягоны бацька Аляксандр Дзядок.*

Калі Мікалай быў этапіраваны са Шклоўскай калоніі ў Магілёўскую турму і як доўга ён там знаходзіцца, Аляксандру Дзядку не вядома.

4 снежня ў Шклоўскай калоніі прайшоў закрыты суд, на якім было прынята рашэнне накіраваць Мікалая Дзядка ў крытую турму нібыта за сістэматычнае парушэнне рэжыму адбыцця пакарання. Мікалай Дзядок быў асуджаны па справе анархістаў разам з Ігарам Аліневічам і Аляксандрам Францкевічам. Іх абвінавацілі ў арганізацыі антываеннага шэсця каля будынка Мінабароны, нападзе на расійскую амбасаду і цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна ды шэраг іншых дзяржаўных і прыватных установаў. Ніхто сваёй віны не прызнаў. Праваабаронцы лічаць усіх трох палітычнымі вязнямі і патрабуюць іх неадкладнага вызвалення.

ЧУЛІ?

## *Праваабаронцы выбралі лепшых*

*10 снежня адбылося ўручэнне прэмій за дасягненні ў галіне абароны правоў чалавека.*

У Міжнародны дзень правоў чалавека праваабаронцам года назвалі **Любоў Кавалёву** — маці расстралянага па справе аб выбуху ў метро Уладзіслава Кавалёва.

Адвакатамі года сталі **Альвіна Дрыго** і **Аліна Шостак**, якія баранілі ў судах маладзёжных актывістаў.

Зараз Альвіна Дрыго — адвакат палітзняволенага Мікалая Аўтуховіча, у апошні год удзельнічала ў вялікай колькасці адміністрацыйных працэсаў супраць актывістаў розных арганізацый.

Аліна Шостак — адвакат маладафронтаўца Уладзіміра Яроменкa, зняволенага Арцёма Пракапенкі. Таксама шмат удзельнічала ў адміністрацыйных справах.

Журналістам года прызнаны **Андрэй Пачобут**, якога абвінавачваюць у паклёпе на Аляксандра Лукашэнку.

Нагадаем, што лаўрэатамі прэміі беларускіх праваабаронцаў за 2011 год былі: праваабаронца **Алесь Бяляцкі**, фотажурналісты **Юлія Дарашкевіч** і **Уладзь Грыдзін**, адвакаты **Дар'я Ліпкіна** і **Марына Кавалеўская**.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## *Ладутько приказал послать на уборку снега бомжей*

Качество уборки Минска от снега необходимо повысить. Такое поручение дал в понедельник на оперативном совещании в мэрии председатель Мингорисполкома Николай Ладутько. В числе первоочередных задач — своевременный вывоз снега с остановок, расчистка выездов из дворов до начала рабочего дня, на особом контроле — Минская кольцевая автодорога, главные проспекты и улицы. Председатель Мингорисполкома поручил проанализировать эффективность использования бюджетных средств, специалистов, техники, а также активнее привлекать к работам граждан, ведущих асоциальный образ жизни, ранее судимых и не имеющих определенного места жительства.

SOS!

# Толькі Грыбаўскайтэ і Лукашэнка могуць ліквідаваць бардак на літоўска-беларускай мяжы



*Так, рашучыя меры павінны прыняць прэзідэнты. Усе астатнія начальнікі аказаліся бездапаможнымі. Учора ў абед з боку Вільнюса ў чарзе стаялі амаль 600 вялікагрузных фур. Цяжка было падлічыць, колькі іх чакала з беларускага накірунку. Чарга пачыналася адразу за Ашмянамі, а да Каменнага Лога — недзе пад 20 кіламетраў. Можна меркаваць, што і на выездзе з Беларусі стаялі не менш за паўтысячы грузавікоў.*

*З'явяцца прэзідэнты ў "гарачых кропках" — з'явіцца там і іх чэлядзь. Павылазяць з цёплых кабінетаў, зоймуць рабочыя месцы ў пунктах пропуску — і тады, магчыма, чэргі фур знікнуць. А пакуль дальнабойшчыкі ў палоне не столькі снежных заносаў, колькі, прабачце, бардака на літоўска-беларускай мяжы.*

*Кажуць, тормазам з'яўляюцца літоўцы. Некалькі дзясяткаў іх памежнікаў днямі павязалі і кінулі за краты, а таму, маўляў, няма каму працаваць.*

*Людзям, якія суткамі днююць і начуюць на марозе, да лямпачкі, хто вінаваты. Яны ведаюць, што і ў Літве, і ў Беларусі ёсць прэзідэнты. І толькі на іх спадзяванне. Спадарыня Грыбаўскайтэ і спадар Лукашэнка, вызвальце сотні пакуль яшчэ жывых людзей з палону!*

**Аркадзь ВІЛЬЧЫНСКІ.**

*Каменны Лог.*

КАЗУС

## *Брэнд расчаравання*

*Графічным сімвалам Мінска абраны бела-блакітны патэрн (схема ўзору, які паўтараецца), што нагадвае мікрасхему. Фірмовым колерам вызначаны блакітны. Англамоўным слоганам горада Мінска стане "Think Minsk". Рабочы варыянт рускамоўнага слогана — "Минск. Интересно". Слоган на беларускай мове яшчэ не прыдумалі.*

Брэнд Мінска стварала брытанская кампанія INSTID. Яна выйграла конкурс і атрымала кантракт на 300 мільёнаў беларускіх рублёў. І вось першыя вынікі прэзентаваны.

Першая рэакцыя: брэнд, мякка кажучы, выклікае здзіўленне.

Па-першае, ідэя лагатыпа не зусім арыгінальная. Як адзначыў адзін з самых вядомых беларускіх спецыялістаў у галіне PR-тэхналогій Валянцін Лопан, Мінску для лагатыпа прапанавана размаляваная і адаптаваная ідэя, якую можна купіць у інтэрнэце за... 46 цэнтаў. І сапраўды, вельмі падобна...

Крыху пазней яшчэ адно дзіўнае супадзенне выявіла Вольга Безгіна, менеджар супольнасцяў беларускага інтэрактыўнага агенцтва Red Graphic.




Яна вырашыла высветліць, які ж лагатып мае Лондан, і аказалася, што ён такі — "Think London".

Ці не зашмат чужых ідэй ва ўсёй гэтай гісторыі? А можа, англійскія піяршчыкі менавіта ў гэтым бачаць беларускую сутнасць?

**ДАРЭЧЫ**

Брэнд Беларусі трэба будзе распрацаваць да канца 2012 года. Першым бачным вынікам для мінчукоў павінна стаць з'яўленне лагатыпа і фірмовага стылю горада. Акрамя таго, эксперты павінны правесці майстар-класы і лекцыі ў галіне дызайну, фатаграфіі і гарадскога афармлення для беларускіх спецыялістаў.

Таксама брытанская кампанія стварыла фірмовы водар горада і плануе зацвердзіць спіс "мінскіх" страў, якія будуць даступны па невысокай цане.

ЦІКАВЫЯ СУСТРЭЧЫ

# Дзве гісторыі беларусаў, якія жывуць у Польшчы

*Як жыве сучасная Польшча, не па чутках ведаюць многія беларусы. Штогод польскае пасольства ў Беларусі выдае каля 300 тысяч віз — больш, чым усе амбасады краін ЕС.*

*Нямала беларусаў вучыліся ў Польшчы альбо атрымалі Карту паляка і сёння жывуць і працуюць у суседняй дзяржаве. Нашых суайчыннікаў можна сустрэць на вуліцах Варшавы, Гданьска, Кракава і іншых польскіх гарадоў і мястэчак. Але як жывецца беларусам у Польшчы? Ці спраўдзіліся іх уяўленні аб магчымасцях, якія можа даць адна з краін Еўрапейскага Саюза? Вось гісторыі некалькіх чалавек.*

## *Гісторыя першая*

## *Таццяна Нядбай, філолаг: «У ідэале я хацела б жыць у Беларусі, але без адчування клаўстрафобіі, калі ты заціснуты межамі»*



— Я вучылася на філфаку БДУ, і на пятым курсе ў 2006 годзе пасля прэзідэнцкіх выбараў патрапіла на Акрэсціна, — мы размаўляем з Таццянай у цэнтры Варшавы, ва ўтульным кафэ на вуліцы Курча. Таццяна шчыра расказвае пра сваю эміграцыю.

— Пасля адсідкі не спадзявалася на нешта харошае, думала, што выйду і мяне адлічаць, таму адразу пайшла да намесніка дэкана з пытаннем: мне ісці на заняткі ці за дакументамі? Мяне не адлічылі, далі абараніць дыплом. Але я вельмі хацела вучыцца далей, паступаць у аспірантуру. Аднак бюджэтных месцаў у БДУ было мала, таму я падала дакументы адразу ў некалькі месцаў, у тым ліку і ў Люблінскі ўніверсітэт.

Так я апынулася ў Польшчы. Скончыла аспірантуру ўніверсітэта Любліна. У 2011 годзе абараніла дысертацыю і думала вяртацца ў Беларусь, нават перавезла дамоў усе цёплыя рэчы. Але гэта быў першы віток крызісу, здымаць кватэру ў Мінску са сваёй польскай ступенню, якая на Беларусі не прызнаецца, азначала трапіць у галяк без надзеі сябе рэалізаваць. Ехаць у Полацк да бацькоў таксама не надта хацелася, я нават не ўяўляла, дзе буду там працаваць. А ў Польшчы знайшлася праца, звязаная з Беларуссю, што мяне вельмі цешыць. Мне падабаецца, што яна не тычыцца палітыкі. Я працую ў Фондзе Open Culture, які займаецца культурніцкімі праектамі.

Скажу шчыра: вельмі хацелася б знайсці працу ва ўніверсітэце, у навуковым асяродку, каб мець магчымасць адчуваць, што гады ва ўніверсітэце, у аспірантуры, мая вучоная ступень — усё гэта было недарэмна. Але на сённяшні дзень такой працы няма.

У Польшчы ёсць асяродкі беларусістыкі, у Варшаўскім універсітэце, напрыклад, ёсць факультэт беларускай філалогіі. Але там няма зацікаўленасці ў абнаўленні кадраў, я прапаноўвала ім некалькі курсаў, але на жаль, не атрымала падтрымкі. Не ўдалося затрымацца ў Любліне... Аднак надзеі не губляю.

**— Сваім сённяшнім узроўнем жыцця ты задаволена? Напрыклад, колькі ты зарабляеш?**

— Мне складана акрэсліць мае заробкі у Польшчы. Я зарабляю дастаткова, каб утрымліваць сябе і дазваляць, напрыклад, адпачынак па-за межамі Польшчы.

Дазвол на працу мне не патрэбны, бо я скончыла аспірантуру ў Польшчы. Я маю часовы від на жыхарства. Здымаю аднапакаёвую кватэру, плачу 450 долараў. Кошты ў мінскіх крамах і варшаўскіх адрозніваюцца неістотна, наадварот, шмат чаго танней можна купіць у Варшаве.

**— Сумуеш па радзіме? У Польшчы асела многа беларусаў, можа, з кім пасябравала? Увогуле, беларусы ў Польшчы шукаюць адзін аднаго?**

— Цяжка сказаць. Шчыра кажучы, беларускі асяродак у Варшаве вельмі складаны і перасвараны. Але гэтая перасваранасць ускладняе камунікацыю на больш шырокіх падзеях, але не на прыватных дачыненнях. Гэта не замінае знайсці аднадумцаў, знайсці людзей, з якімі табе прыемна сябраваць.

**— Што б ты параіла тым маладым беларусам, якія прагнуць выехаць за мяжу, зачапіцца тут і застацца?**

— У кожнага свая прыватная сітуацыя, і кожны вырашае сам за сябе. Не хачу мець нейкіх ментарскіх, патэрналісцкіх падыходаў да моладзі і навязваць сваю думку. Калі хтосьці хоча выехаць і рэалізавацца за межамі Беларусі — гэта абсалютна нармальная сітуацыя. Атрымаць добрую адукацыю на Захадзе і вярнуцца, на мой погляд, гэта лепшы варыянт. У ідэале я хацела б жыць у Беларусі, але без адчування клаўстрафобіі, калі ты заціснуты межамі, не маеш магчымасці свабодна перасоўвацца, кантактаваць з усім светам. Зараз я адчуваю, што жыву.

Бясспрэчна, ёсць два моманты, якія аблягчаюць тваё жыццё ў Польшчы. Першы — адчуванне таго, што да цябе ў офіс не прыйдуць з перaтрусам, калі ты працуеш з тымі ж самымі рэчамі, з якімі працаваў бы ў Беларусі. Другое — тут значна больш свабоды, а праз гэта і больш магчымасцяў зарабляць грошы. І дзякуй Богу, што я маю магчымасць наведваць Беларусь.

## *Гісторыя другая*

## *Сяргей Храшчэўскі, прадпрымальнік: «Дачка вырашыла паступаць у медыцынскі ўніверсітэт, і мы апынуліся ў Польшчы»*

— Ідэя жыць у Польшчы нарадзілася раптоўна, — гісторыя бізнесмена Сяргея Храшчэўскага не зусім тыповая і гэтым асабліва цікавая. — Наогул гэтая краіна нас ніколі не вабіла. У Мінску ў мяне быў свой бізнес, я нядрэнна зарабляў, мы шмат падарожнічалі сям'ёй па Еўропе. І калі, дарэчы, праязджалі Варшаву, жонка кожны раз адзначала, які гэта шэры, нецікавы горад. Ёй значна больш падабаліся Бяла-Падляска, Мінск-Мазавецкі. Але гэта ўсё былі размовы па дарозе, не болей...

Аднак за два гады перад заканчэннем гімназіі старэйшая дачка Маша цвёрда вырашыла паступаць у медыцынскі ўніверсітэт. Але што такое быць доктарам у Беларусі? Шэсць гадоў вучыцца і ў выніку атрымліваць капейкі. Беларускі дыплом не прызнае ні адна цывілізаваная краіна, хаця нашы ўрачы не горшыя за замежных спецыялістаў. Такіх перспектыў для дачкі мы не хацелі, не задавальняла гэта і Машу. Пачалі разглядаць варыянты. Адразу ўзнікла ідэя ехаць у Санкт-Пецярбург, спрабаваць паступіць у Ваенную медыцынскую акадэмію, дыплом якой прызнавалі ў Еўропе.

Але так супала: Маша скончыла гімназію, а дыплома піцерскай акадэміі ўжо было недастаткова, каб уладкавацца на працу ў краінах Еўрасаюза. І тады ўзнікла ідэя ехаць у Польшчу.

Сувязь з гэтай краінай, калі так можна сказаць, у мяне на генетычным узроўні. Мой бацька нарадзіўся ў Польшчы. Пасля Другой сусветнай вайны яго бацькі пераехалі ў Беларусь: дзеда запрасілі выкладаць ва ўніверсітэце. Акрамя таго, з Польшчай у мяне былі сувязі па бізнесе, часта даводзілася тут бываць. У 2000 годзе я быў абраны ў прэзідыум польска-беларускай прамысловай палаты, стаў яе прадстаўніком у Мінску. Я назіраў, як мянялася Польшча пасля атрымання незалежнасці, уваходу ў Еўрапейскі Саюз. І гэтыя змены выклікалі толькі пачуццё павагі да палякаў. А што тычыцца медыкаў, то некалькі гадоў таму баставалі ўрачы і патрабавалі павелічэння заробкаў: мінімум да 5—6 тысяч еўра. Сёння ў Польшчы няма ўрача, які б зарабляў менеей за 2 тысячы еўра. Пагадзіцеся, гэта больш прываблівае, чым беларуская рэчаіснасць.

**— А дачка ведала польскую мову?**

— У тым і справа, што не. Але мы даведаліся, што ў Лодзі ёсць курсы польскай мовы для іншаземцаў, якія паступаюць у медыцынскія ўніверсітэты. Маша паступіла на гэтыя курсы. У 17 год апынулася адна ў чужой краіне. Жыла ў інтэрнаце. Год навучання каштаваў для яе 2 тысячы долараў. Пасля заканчэння курсаў Маша паспяхова здала экзамены, паказала трэці вынік сярод усіх іншаземцаў і атрымала права выбіраць медыцынскі ўніверсітэт. Яна спыніла свой выбар на Варшаўскім універсітэце. Але тут высветлілася, што год навучання каштуе 12 тысяч долараў. Як для ўсіх замежнікаў.

Карты паляка ў Машы не было. І, забягаючы наперад, скажу, што ніхто з нас гэтай карты не мае. Калі я звяртаўся ў консульства ў Польшчы, мне прапанавалі аформіць дазвол на пастаяннае пражыванне ў Польшчы з той нагоды, што я маю польскія карані. І такі дазвол у мяне ёсць. Але ён не дазваляе маёй дачцэ атрымліваць бясплатную адукацыю. І мне спатрэбілася шмат высілкаў, каб дамагчыся для Машы бясплатнага навучання ва ўніверсітэце. І ў гэтым сэнсе прыклад Машы не паказальны для тых маладых беларусаў, якія жадаюць атрымаць вышэйшую адукацыю ў Польшчы. Мая парада: загадзя вучыць польскую мову, калі ёсць магчымасць, атрымліваць Карту паляка і паступаць на агульных умовах з мясцовай моладдзю.

**— А як вы тут уладкаваліся?**

— Мы стала пераехалі, калі Маша вучылася на першым курсе Варшаўскага ўніверсітэта. Малодшая дачка Ксенія ў гэты час вучылася ў трэцім класе агульнаадукацыйнай школы. Пераехалі ў Варшаву зімой, пасля навагодніх свят. І паўстала пытанне: дзе вучыцца Ксеніі? Можна было паступіць у школу пры расійскай амбасадзе за 1,5 тысячы еўра за семестр. Але такі варыянт не задавальняў. Я пайшоў у польскую школу, што месцілася побач з кватэрай, якую мы здымаем у Варшаве. І нам пайшлі насустрач.



Ксюшу адразу залічылі ў трэці клас пачатковай школы. Гэта пры тым, што яна не ведала польскай мовы. Да дачкі прыставілі настаўніцу, якая дадаткова вывучала з ёю польскую мову. І ўсё гэта было бясплатна! Зараз Ксюша вучыцца ў гімназіі, пасля яе заканчэння будзе паступаць у ліцэй, а потым — ва ўніверсітэт. Яе мара — журналістыка.

Польскія ўніверсітэты спасцігаем увесь час. Напрыклад, летам у лагеры Ксенія зламала ключыцу, яе адразу адвезлі ў шпіталь, некалькі дзён яна правяла ў ім. І высветлілася, што яна была застрахаваная, і нам яшчэ страхавая кампанія вярнула грошы.

Цяпер мы з жонкай таксама застрахаваныя. Маша мае страхоўку ва ўніверсітэце. Мы з жонкай абслугоўваемся ў паліклініцы па месцы жыхарства, калі трэба, звяртаемся да ўрачоў прыватных медцэнтраў.

**— Падабаецца жыць у Польшчы?**

— Пакуль так. А як будзе далей, ніхто не ведае. Я працую, крызіс адчуваю, але не катастрафічна.

Кватэра ў Мінску застаецца. Мы — грамадзяне Беларусі. Але сёння жыць у Беларусі ўсё складаней і складаней. Пры беларускім узроўні зарплат кошты ў магазінах значна вышэйшыя, чым у Польшчы. А на польскія тавары ў тры разы!

**— Чаму канчаткова не перяязджаеце?**

— Пры ўсім маім паважлівым стаўленні да палякаў — а за апошнія 20 год яны зрабілі каласальны рывок наперад — я перакананы, што прыказка "Дзе нарадзіўся, там і спатрэбіўся" дакладная. У 40 гадоў пачынаць жыццё ў чужой краіне вельмі складана. Чужое ніколі не стане сваім.

Наша мара з жонкай: даць адукацыю малодшай дачцэ, пераканацца, што дочкі ўдала інтэгрыраваліся ў заходнееўрапейскае жыццё, і пераехаць жыць у Беларусь.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

*Мінск—Варшава.*

ЧУЛІ?

## *Кіроўца, які збіў хлопчыка каля школы, усё-такі арыштаваны*

Следчы камітэт выставіў абвінавачванне вадзіцелю аўтамабіля "Поршэ Каен", пад які трапіў 9-гадовы вучань школы №23 па вуліцы Панчанкі ў Мінску.

Агенцтву БелаПАН у Следчым камітэце паведамілі, што "ў якасці меры стрымання ў дачыненні да абвінавачанага ўжыта заключэнне пад варту".

Крымінальная справа заведзена паводле артыкула "Парушэнне правілаў дарожнага руху асобай, якая кіравала транспартным сродкам, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека".

Гісторыя, калі аўтамабіль збіў трэцякласніка проста ля ганка школы, стала, як кажуць, апошняй кропкай. Зараз ДАІ панічна спрабуе больш-менш цывілізавана вырашыць праблему з паркоўкай аўтамабіляў ля дзіцячых навучальных устаноў. Але што тычыцца вадзіцеля, то ён ад дня аварыі быў на свабодзе.

### ДАРЭЧЫ

Некаторыя СМІ распаўсюдзілі звесткі пра тое, што з-за трагедыі ля 23-й школы былі звольнены кіраўнік Мінскага гарадскога і Фрунзенскага раённага аддзелаў адукацыі. Фактычна гэта так, але юрыдычна звальненне ніякім пакараннем не з'яўляецца.

Былы старшыня камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама Уладзімір Шчэрба ўжо прызначаны кіраўніком спраў Ленінскага райвыканкама Мінска.

НАЗНАЧЕНИЯ

## *Чем дальше в лес...*

Александр Лукашенко дал согласие на назначение Александра Переславцева председателем Белорусского производственно-торгового концерна лесной, деревообрабатывающей и целлюлозно-бумажной промышленности.

До понедельника Александр Переславцев работал генеральным директором ОАО "Управляющая компания холдинга "Белорусские обои".

Напомним, что бывший руководитель концерна "Беллесбумпром" Владимир Шульга лишился должности во время посещения Александром Лукашенко предприятия "Ивацевичидрев". Это единственное из деревообрабатывающих предприятий страны, которое уже завершило модернизацию и начало работать на полную мощность, однако главе государства не понравился мусор. В результате прямо в Ивацевичах глава государства принял решение о назначении директором предприятия Владимира Шульги.

ПРОГНОЗ

## *Морозы к выходным усилятся*

*Об этом сообщила главный синоптик Республиканского гидрометеоцентра* ***Людмила Паращук****.*

"В начале текущей недели в Беларуси под влиянием активных атмосферных фронтов, поступающих с Украины, снег усилился. Увеличилась высота снежного покрова. По последним данным, она колеблется от 7 до 20 см, по югу Минской области и местами в Гомельской высота сугробов достигает 24—28 см", — рассказала Людмила Паращук.

Ситуация с погодой не изменится и в ближайшие дни: высота снежного покрова будет увеличиваться и в середине недели местами может достигнуть 50—60 см. Температура воздуха с каждым днем будет постепенно понижаться.

В ближайшие сутки, 11 декабря, в Беларуси будет преобладать облачная погода, на большей части территории пройдет снег, мокрый снег. Ночью и утром во многих районах, а днем на востоке страны временами ожидается сильный снег. Температура воздуха в течение суток будет от нуля до 6 градусов со знаком минус. Ночью по западу страны при прояснениях ожидается до 10 градусов мороза.

В среду, 12 декабря, температура воздуха в течение суток будет колебаться от нуля до минус 7 градусов, ночью при прояснениях ожидается до 8—12 градусов мороза.

В четверг, 13 декабря, температура воздуха ночью составит 3—8 градусов со знаком минус, при прояснениях столбик термометра опустится до минус 10—12 градусов. Днем ожидается от 2 до 7 градусов мороза. На большей части территории страны пройдет снег, местами сильный. На дорогах возможны снежные заносы.

*"14 декабря с интенсивным ростом атмосферного давления усилится влияние мощного холодного антициклона, который с полярного Урала движется на центральные районы европейской России. В поле его действия попадет и погода Беларуси. Так, в пятницу снег будет идти только местами. Температура воздуха ночью будет от 6 до 12 градусов мороза, при прояснениях ожидается до минус 13—16. Днем температура составит 5—10 градусов ниже нуля",* — рассказала главный синоптик.

В предстоящие выходные ожидается дискомфортная холодная погода: снега будет мало, но усилится мороз. Ночью прогнозируется до 9—14 градусов мороза, при прояснениях до минус 16—18 градусов. Днем температура воздуха составит 7—12 градусов ниже нуля. *"В западных районах Беларуси морозы будут слабее, но из-за порывистого юго-восточного ветра ощущение холода усилится. Такой температурный фон на 3-8 градусов будет ниже климатической нормы для этих чисел декабря",* — отметила Людмила Паращук.

По предварительному прогнозу, в начале следующей недели также сохранится холодная погода.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Радзіма мая дарагая...

*Неўзабаве ў Мінску з'явіцца новая плошча — Дзяржаўнага сцяга... Работы — паміж выставачным цэнтрам "БелЭкспа" і паркам Перамогі — вядуцца поўным ходам. Карэспандэнт "Народнай Волі" паспрабаваў высветліць дэталі новабудоўлі і выправіўся на будпляцоўку...*




Варта адзначыць, што пра ідэю стварэння плошчы Дзяржаўнага сцяга сталі гаварыць яшчэ летась. А ўжо восенню 2011 года паблізу "БелЭкспа" загрукатала тэхніка... Паколькі новабудоўлю агарадзілі глухімі шчытамі, а па перыметры сноўдаліся міліцыянты, то ў людзей ўзнікла цікавасць: што ж на самай справе там "грохаюць"? З двух шчытоў з пашпартамі аб'ектаў вынікала, што вядзецца рэканструкцыя выставачнага цэнтра, а яшчэ — будоўля "адміністрацыйнага будынка ў межах вул.Арлоўскай, пр.Пераможцаў і р.Свіслач". Але што гэта за "адміністрацыйны будынак" і хто яго заселіць пасля ўвядзення ў эксплуатацыю, дакладнай інфармацыі дабіцца немагчыма. Заказчык аб'екта — УКБ Мінгарвыканкама — адмоўчваецца ці адказвае ўхіліста: "Пакуль прыняцце рашэння прыпынена, тэлефануйце пазней..." А тым часам па Мінску гуляе розгалас, нібыта адзін з двух узводзімых аб'ектаў — новая (ці чарговая) рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі...

Так гэта ці не, пакуль адказу няма. Затое ўжо дакладна вядома, што менавіта тут будзе плошча Дзяржаўнага сцяга.

Але зазірнём на сам "аб'ект"... Як і раней, тэрыторыя будучай плошчы апаясана глухімі загараджальнымі шчытамі. Праўда, на шчытах красуюць адмыслова намаляваныя (не ад рукі, канечне) выявы будучай плошчы. Ды яшчэ надпіс зялёнага колеру ў аршын вышынёю: "Площадь Государственного флага Республики Беларусь". Уваход-праезд на тэрыторыю будоўлі — з боку "БелЭкспа". Праз тыя рассунутыя шчыты-вароты і трапляю на будпляцоўку...

Людзей няшмат, затое тэхнікі навалам: бульдозеры, экскаватары, укатчыкі, самазвалы... Пакуль на месцы сцяганоснай плошчы — велізарны катлаван і горы пяску. Праўда, па акружнасці поўным ходам ладзяцца муры-падмуркі, вакол кладзецца мармуровая плітка светлага колеру.

— А ці ёсць хто з начальства? — пытаюся ў двух дзецюкоў, якія выкладваюць пліты на ўтрамбаваны жвір.

— Прараб сышоў некуды, — адказвае адзін, — ён тут галоўны.

— Пэўна, у бытовачны гарадок, — дапаўняе калегу другі мужчына, — але ён нам не начальнік.

— Чаму так? — дзіўлюся ў сваю чаргу.

— А таму, што мы падрадчыкі з прыватнага прадпрыемства і ў нас свой "бугор"...

Для сябе адзначаю: дык тут не адна кантора працуе!

На тым і разышліся.

Пакуль начальнікі швэндаюцца па сваіх справах, фатаграфую "будоўлю года" на камеру — якая-ніякая, а гісторыя... Ужо на выхадзе сутыкаюся з двума маладзёнамі ў будаўнічых робах і зноў спрабую дабіцца: дзе і як знайсці прараба? Скеміўшы, што перад імі карэспандэнт, хлопцы дзівяцца:

— Сюды не вельмі пускаюць пабочных асоб, ды яшчэ з фотаапаратам, і ў бытоўку да прараба ты не трапіш. Там — КПП, пускаюць па прапусках.

Пачуўшы, што я з "Народнай Волі", параілі лепш нават не соўвацца туды, бо "ўсё адно не прапусцяць".

— А газету вашу паважаем, — прызналіся ледзь не шэптам.

Напаследак пытаюся ў малойцаў, ці ведаюць яны, што за аб'ект узводзіцца па той бок "БелЭкспа", што там будзе ўрэшце. Але тыя адно рукамі развялііі:

— Самі ў здагадках, ведаем тое, што і вы, — адміністрацыйны гмах, а які і для каго — чорт яго ведае...

Для заспакаення душы пруся ўсё ж на КПП. Толькі ў дзверы, а насустрач кабета ва ўніформе:

— Што трэба, хто такі? У нас толькі па прапусках...

Кажу: так, маўляў, і так — прараб мне патрэбны. А тая строга:

— Нічым дапамагчы не магу, тут вам няма чаго рабіць.

Гібець на холадзе ды чакаць, калі той "бугор" нос пакажа, — хай яно лепш спрахне! Так і не дачакаўся я нікога.

Растлумачылі дзецюкі з прыватнай падраднай канторы. Па іхных словах, у цэнтры плошчы будзе ўзвышацца афіцыйны чырвона-зялёны сцяг Беларусі, а па баках — гербы ўсіх абласцей. І тут, са свайго боку, адзначу: Беларусь — адзіная з краін былога СССР, якая практычна цалкам — з невялікімі ўкрапінамі — узнавіла-адрадзіла савецкі сцяг. Да таго ж Беларусь (вярхоўная яе ўлада) першай у свеце скарыстала нацыянальны арнамент у якасці элемента дзяржаўнага сцяга. У аснове таго ўзору-арнамента — "узыходзячае сонца", вытканае ў 1917 годзе Матронай Маркевіч, сялянкай вёскі Касцелішча Сенненскага раёна Віцебскай губерні. Вытканы арнамент быў адшуканы ў архівах Белпрамсавета і, як высветлілася, меўся быць часткай жаночага гарнітура. Мама мая дарагая (у сэнсе Радзіма, калі па Алесю Бачылу), чаго толькі на свеце не здараецца, і як яно толькі ні паварочваецца...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**



## *Нежеланный гость*

*29 ноября на юге Москвы сотрудниками полиции был задержан 45-летний вор в законе Сумбат Абасов по прозвищу Сумбат. Об этом сообщало агентство "Прайм Крайм". В августе текущего года этот авторитет посетил Беларусь с "краткосрочным визитом".*

Абасова задержали за нарушение правил пребывания иностранных граждан на территории России. И уже не в первый раз. Проблемы с его выдворением начались два года назад, когда вор в законе освободился из колонии, где отбывал наказание за хранение наркотиков. Российские власти просто не знали, куда его отправить. Абасов оказался "круглым" бомжом. В ходе дипломатической переписки ни одна страна не согласилась признать его своим гражданином. В конце концов авторитету предложили самому выбрать страну депортации, и он назвал Беларусь.

В конце августа Сумбат был сопровожден до границы с Беларусью сотрудниками ГУ МВД России по Центральному федеральному округу и под их контролем пересек государственный рубеж. Случилось это на смоленском участке российско-белорусской границы.

Как позже стало известно интернет-газете Naviny.by, встретить с почестями грузинского вора в законе и предоставить ему убежище намеревались представители белорусского криминального мира, принадлежащие, как и Сумбат, к клану Деда Хасана. К слову, Хасан лично короновал Абасова в 1990 году. Однако торжественную встречу сорвали белорусские борцы с оргпреступностью.

По словам начальника ГУБОПиК МВД Беларуси Альберта Ляговича, иностранного вора в законе на нашей стороне, что называется, приняли и депортировали обратно в Россию.






## Ніл ГІЛЕВІЧ

# Новыя вершы

### Няхай шалеюць гэныя, а я...

*А я шчаслівы тым, што столькі маю*
*Надзейных, верных, любых мне сяброў.*
*Шчаслівы тым, што цвёрда веру-знаю:*
*Не, не дадуць яны загінуць краю,*
*Дзе ад вякоў пульсуе наша кроў,*
*Кроў нашай Памяці, кроў Родных Слоў!*

### Будзьма, кім ёсць!

*“Станьма, як немцы! Або — як англійцы!*
*Ну гэта ж так проста:*
*З’ездзі, пабач — і іх дух і іх веру прымі!”*
*Гэта — наіўнасць. Не станем павек.*
*Дый навошта?*
*Будзьма, кім ёсць мы —*
*крывіцкага роду людзьмі!*

### Як вернік у храм

*Верш не павінен быць як нейкі хлам.*
*Радкоў сяк-так скілзаных — не цярплю.*
*Я ў верш хачу заходзіць, як у храм —*
*Як вернік у касцёл або ў царкву.*

### Пра крылы паэта

*Паэт сягае ўвысь на родных словах —*
*Ва ўсе часы было так у паэзіі.*
*Нашто ж — пытаю ўмельцаў адмысловых —*
*Вы крылы гэтыя яму падрэзалі?*

### Апошняя страфа з адной ненапісанай балады

*Тады і нанёс мне сябар мой рану.*
*Такую рану, што думаў: не ўстану.*
*Выжыў. І цыўкаю сціху. Аднак*
*Гляджу на жыццё ўжо інакш, інакш...*

### Што гэта, Божа?

*Што гэта, Божа? Няўжо невылечная нарасць*
*Губіць іх душы і сэрцы, бязглуздзіць галовы?*
*Гэта ўжо не абыякавасць, гэта — нянавісць*
*Да найсвятой са святыняў — да роднае мовы.*

### Ну, а галоўнае...

*Ой, як усе навучыліся ў нас гаварыць!*
*Як красамоўна, як гладка, як думна-разумна!*
*Ну, а галоўнае: іншы галовы дурыць*
*Можа гадзінамі — і анікому не сумна!*

### На тэму: бацькі і дзеці

*На камуністаў ядавітай сліны*
*Ён не шкадуе. Нават калі хтось*
*Маральнасцю да той належаў плыні,*
*Якую заснаваў Ісус Хрыстос.*
*Паколькі камуністам быў і родны*
*Ягоны татка, дык цікава знаць:*
*Ці ходзіць ён, ад ерасі свабодны,*
*На бацькаву магілу пapляваць?*

### «Савок»

*Чалавек жыў сумленна. З даверам да лёсу свайго.*
*Хоць жыццё ў чалавека было небагаценькае.*
*А цяпер ён “савок”. “Саўком” абзываюць яго.*
*І прыдумалі ж слоўца такое... гадзенькае.*

### Дзівак

*Дзівак: выдае свае творы, за крохі ад пенсіі,*
*Накладам у семдзесят кніг (абы дома не плеснелі).*
*І тыя ляжаць у кнігарнях. Ніякага попыту!*
*А ён усё новыя піша — з якогасьці клопату.*

### «Во каб цябе!.»

*“Во каб цябе!..” Гэта я так на Музу сваруся.*
*Штось баставаць пачала. На чацвёрты радок,*
*Як на чацвёрты паверх без ліфта, узбяруся —*
*І адчуваю: усё! І далей ні на крок!*



ПОГЛЯД

# Сталіца вачамі правінцыялкі

*Нядаўна дзякуючы добрым людзям у мяне надарылася рэдкая магчымасць выбрацца ў Мінск. Так бы мовіць, адвяла душу. Пабывала ў кнігарнях, Галерэі мастацтва, у Чырвоным касцёле. Пагутарыла з некаторымі людзьмі. Доўга буду жыць уражаннямі...*



### Мастацтва — для народа

У Галерэі мастацтва на праспекце Незалежнасці, у зале, што направа ад уваходу, была выстава карцін мастака С.Барысава. Работы цудоўныя, кранаючыя душу пейзажы, якія адлюстроўваюць ці не ўсе поры года. Хадзіла ад адной да другой, як зачараваная. Але калі глянула на цану... Па восем мільёнаў рублёў за карціну! Былі і таннейшыя, але не нашмат.

А як перайшла ў другую залу, то ажно дух захапіла ад цэн: больш як па 30 мільёнаў рублёў просяць мастакі за многія свае работы.

Пераймае дыханне і ад цэн на розныя скульптуркі. Яны таксама набліжаюцца да 30 мільёнаў рублёў! Можа, хто-небудзь са сталічных аматараў мастацтва і здолее іх купіць. Не ведаю. Але я ведаю, як жывуць людзі ў правінцыі. Зарплата калгаснага заатэхніка — каля двух мільёнаў рублёў. Яму трэба больш за год не піць і не есці, каб набыць такую цацку. Ці ўжо вясковыя жыхары пад увагу зусім не бяруцца? Ім не патрэбна прыгажосць? Толькі і ведай, што з ранку да вечара працуй у калгасе, а потым, вярнуўшыся дадому, яшчэ і ўласную гаспадарку ўпраўляй. Калі горад жыве, то вёска выжывае. І не дзіва, што імкліва співаецца.

### Кніга — лепшы падарунак

Для мяне так. Лепшы. Але ахвотнікаў дарыць няма і, пабываўшы ў мінскіх кнігарнях, я зразумела чаму. Хацела купіць кнігу Віктара Шандаровіча, але, глянуўшы на цану, рэзка перахацела: 84 тысячы рублёў за кнігу невялікага фармату!

— Нядаўняе паступленне, — патлумачыла добразычлівая прадаўшчыца. — Калі хочаце, вазьміце Віктара Каклюшкіна. Яна таннейшая, бо атрымалі раней.

Яна прынесла кнігу гэтага аўтара за 31 тысячу рублёў. Узяла. З марай пра творы Шандаровіча прыйшлося развітацца.

### Не хапае на лекі

На прыступках аднаго з падземных пераходаў сядзела бабулька гадоў пад 80 і прасіла міласціну. Дакладней, яна нічога не прасіла, але жаласліва глядзела на прахожых, трымаючы ў сухенькай руцэ купюры па 50 і 100 беларускіх рублёў. Ахвяравалі, відаць, такія ж бедныя, як і сама бабулька. Працягнуўшы ёй грошы, я спытала:

— Мабыць, пенсія ў вас маленькая?

— Маленькая, да таго ж хварэю і я, і муж. На лекі не хапае... Калі б не хваробы, калі б не такія дарагія лекі, то хіба ж пайшла б я сюды мерзнуць?

Падумалася, што ёй не да карцін, не да скульптурак і кніг. Не ведае бедная, як звесці канцы з канцамі. Добра, што ў нашай краіне ёсць багатыя людзі, якія могуць купіць скульптурку за 30 мільёнаў рублёў, але вельмі дрэнна, што ёсць такія гаротныя пенсіянеры, для якіх і 50 рублёў грошы...

### Усяго адзін беларус?

Вядома, у Мінску не адзін чалавек размаўляе па-беларуску, але я сустрэла толькі аднаго. Ён ішоў па праспекце Незалежнасці і па мабільніку нешта горача тлумачыў свайму суразмоўцу на чыстай беларускай мове. Я, як сапраўдная правінцыялка, прыпынілася і паглядзела яму ўслед: чалавек быў малады, прыгожа апрануты. Значыць, жыве мова і сярод маладых, і гэта ўсяляе надзею, што яна не знікне.

Звярталася да людзей па-беларуску, многія ўсміхаліся і таксама адказвалі на роднай мове. Было вельмі прыемна. Але са мной ніхто не загаварыў па-беларуску, нібыта я не ў сталіцы нашай краіны, а дзе-небудзь у расійскай губерні.

### Толькі на Бога і надзея

У Чырвоным касцёле чарговая дзённая імша яшчэ не пачыналася, але людзей для будзённага дня было даволі шмат. Парадавала тое, што не толькі старэйшыя, але і маладыя ідуць пагутарыць з Богам ва ўрачыстай касцельнай цішыні. Людзі просяць ва Усявышняга літасці і дапамогі выстаяць у наш няпросты час, бо на каго ж нам яшчэ спадзявацца? На саміх сябе неяк не выпадае, бо не маем душэўнай моцы, плывём па волі лёсу. За грахі нейкія, напэўна?

### Усе цвярозыя

Бываючы ў Мінску раней, нене ды і сустрэну на вуліцы шчырых прыхільнікаў бахусава пітва. Яны адметныя, іх не пераблытаеш ні з кім. А на гэты раз цэлы дзень цягалася па горадзе і нідзе не сустрэла не тое што п’янага, але нават чалавека на падпітку. Гэта, канешне, не можа не радаваць. Цікава толькі, ці мне так пашанцавала, ці мінчукі і сапраўды менш сталі ўліваць у сябе д’ябла ва зелля? Добра, калі так.

### Дзе “Вожык”?

Вырашыла зайсці ў рэдакцыю “Вожыка”, з якім у мяне даўнія сяброўскія сувязі. Ведаю, што цяпер гэта ўжо не часопіс, а альманах, і што выходзіць ён раз у паўгоддзе.

Там, дзе раней была рэдакцыя, яе няма. Усе суседзі — “Алеся”, “Настаўніцкая газета”, “На экранах” і іншыя ёсць, а “Вожыка” няма. У каго б ні спытала на ўсіх паверхах, ніхто не ведае, куды знік “Вожык”. Проста дзіва. Гадоў 30 таму такога нават уявіць нельга было, бо часопіс карыстаўся вялікім аўтарытэтам, яго чыталі, любілі, на яго крытычныя выступленні рэагавалі чыноўнікі і кіраўнікі ўсіх рангаў. Бо гэта быў “Вожык”! А цяпер так, нейкі звярок невядомай пароды зусім без калючак. Таму і заўважаць яго перасталі. А што тут, прынамсі, крытыкаваць, калі, як у той даўнейшай песні: жывём мы весела сёння, а заўтра будзем весялей!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

ЧИТАТЕЛЬ—ЧИТАТЕЛЮ

## *«Николай, ты так ничего и не понял»*

31 июля 2012 года в вашей газете было опубликовано письмо Николая Бумая “Помста жанчыны бывае страшэннай”. Мы решили ему ответить.

Николай! Ты с самого начала письма приукрасил свое прошлое. Ты рос на наших глазах, и мы знаем тебя хорошо.

После школы ты окончил железнодорожный техникум и работал в Лидском депо — водил поезда. Женился, но жилье построили твои родители.

Однако тебя потянуло к спиртному, и поэтому после работы брал из паровоза канистру солярки и менял на спиртное. Работники милиции тебя задержали, составили протокол, направили дело в суд, и суд дал штраф. Из депо тебя уволили.

Устроиться на работу в Лиде тебе было тяжело, и ты поехал в Москву. Сколько ты заработал в Москве, не знаем, но когда ты вернулся в Лиду, снова взялся за спиртное.

До того как сесть за разбой, ты, Николай, долгое время нигде не работал. И имел не одну Марину, а несколько женщин, которых обокрал: и деньги, и вещи украл. За что в декабре 2008 года ты был осужден судом Лидского района к трем годам ограничения свободы на химии.

Приговор вступил в законную силу, и ты ждал, когда тебя заберут, и искал, где бы выпить на халяву, как голодный волк. То, что ты пишешь теперь, это абсурд. Версии у тебя не было ни на следствии, ни на суде. Теперь ты выдумал всю эту красивую историю с местью брошенной женщины.

Откуда у тебя могли быть деньги, за которые ты якобы покупал напитки для Марины? Ты же долгое время не работал и даже не рассчитался по первому приговору суда с женщинами, которых ты обокрал.

Твое возмущение в отношении срока наказания (шесть с половиной лет) необоснованно. Ведь, назначая срок наказания за грабеж Марины, суд учел и три года неотбытого тобой наказания по первому приговору.

Ты так ничего в этой жизни и не понял. Прочитав твое письмо в газете “Народная Воля”, мы были удивлены и возмущены твоим вероломством, непризнанием за собой вины, клеветой на Марину. Пойми наконец, что ты сам виноват в том, что с тобой случилось.

Великие юристы прошлого столетия писали, что преступник, правонарушитель начинает свое исправление с момента признания своей вины. Прошло три года, как ты в тюрьме, и все равно никакого результата. На путь исправления ты не встал, раз до сих пор не признал своей вины.

Николай, кроме суда, прокурора есть Бог на свете, который все видит и знает. Советуем тебе покаяться перед Богом в тяжелых своих грехах и попросить прощения перед теми, кого ты обокрал и ограбил.

**Ирина Ивановна ХМЕЛЕВСКАЯ.**

*г.Лида.*

**P.S.** Прошу мою фамилию изменить, чтобы он потом мне не мстил.

РЕАКЦИЯ

***В №№185—186 “Народная Воля” опубликовала письмо читателя Л.А.Ходана об организации проезда личного автотранспорта по территории минской 11-й городской клинической больницы. Недавно газета получила официальный ответ на это письмо.***

***Редактору газеты “Народная Воля”***
***Копия: Л.А.Ходану***

Уважаемый Леонид Александрович!

Ваша статья в газете “Больной, уступи дорогу” рассмотрена администрацией клиники. На момент написания статьи клиникой заключен с подрядной организацией договор на установку шлагбаума и сторожевой будки. Работы планируется закончить к 25.12.2012.

Администрацией совместно с ГАИ неоднократно проводилась работа с водителями, приезжающими в клинику по соблюдению правил дорожного движения, применялись меры административного воздействия к нарушителям.

Высказываем Вам слова благодарности за гражданскую позицию к существующим проблемам, но их можно было высказать администрации клиники во время нахождения на лечении и получить аргументированный ответ.

Главный врач [подпись] Ж.В. Казаченок

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Апраўдваюцца...

*У лексіцы мясцовых улад з’явіліся новыя замежныя словы: “сквотэры”, “рэкультывацыя” і “брыфінг”. На брыфінгу, скліканым для прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ, было заяўлена, што насельнікі вёскі Паўловічы пад Віцебскам, пра знішчэнне якой мы расказалі ў мінулым нумары, — “сквотэры”, бо захапілі тое, што ім не належыць. А руйнаванне і падпал хат, вырубка дрэў і закопванне ў зямлю абгарэлай цэглы і дошак — гэта “рэкультывацыя”.*



Выступаючы перад журналістамі, старшыня Віцебскага гарвыканкама Віктар Нікалайкін заявіў, што знос апошніх дзевяці хат у Паўловічах — гэта выкананне рашэння аблвыканкама ад... 1992 года.

Між тым нават “сквотэраў” — “самасёлаў” — трэба высяляць, кіруючыся нормамі заканадаўства. У дадзеным выпадку быў парушаны артыкул №41 Жыллёвага кодэкса, паводле якога высяленне асоб, якія самавольна занялі нейкія памяшканні, можна здзейсніць толькі па рашэнні суда і толькі па сканчэнні тэрміну, прадугледжанага для добраахвотнага высялення. Працэдуру павінен праводзіць судовы выканаўца разам з панятымі, якія мусяць засведчыць факт высялення.

Тое, што адбылося ў Паўловічах у першыя дні снежня, ніякім чынам не суадносіцца з патрабаваннямі заканадаўства, лічаць праваабаронцы. Ні суда, ні судовага рашэння не было. Людзей папярэдзілі пра знос іхных дамоў, даўшы ім “на зборы” ўсяго два дні. Кіравалі “працэсам” прадстаўнікі Першамайскай раённай адміністрацыі, а не судовыя выканаўцы. Ніякіх актаў складзена не было. Маёмасць знішчана бескантрольна, прычым людзям нанесены значны матэрыяльны ўрон — парэшткі хат жыхары не паспелі разабраць нават “на дровы” — усё было спалена паводле загаду райвыканкама.

Гэтыя парушэнні заканадаўства відавочныя нават у тым выпадку, калі сапраўды прызнаць жыхароў былой вёскі Паўловічы парушальнікамі. Аднак яны кажуць, што амаль у кожнага ёсць нейкія дакументальныя пацвярджэнні правоў уласнасці. Усе разам абражаныя жыхары Паўловічаў рыхтуюць калектыўныя звароты і мяркуюць, што судоў па іхняй агульнай праблеме будзе не менш за тры. Гэта і скарга супраць парушэння жыллёвага заканадаўства з боку чыноўнікаў, якія парушылі артыкул №41, і патрабаванне кампенсацыі за знішчаныя гаспадарчыя пабудовы і садовыя дрэвы, і спагнанне кампенсацыі за маральныя пакуты і страту здароўя — двойчы падчас тэрміновага зносу ў Паўловічы мусілі выклікаць “хуткую дапамогу”...

Адно, што прызнаў старшыня гарвыканкама, — гэта “адсутнасць своечасовай і аб’ектыўнай інфармацыі”: маўляў, трэба было фарміраваць грамадскую думку загадзя. Але першымі, да каго звярнуліся людзі перад пагрозай зносу, былі дзяржаўныя тэлеканалы. І ніхто адтуль не адгукнуўся на просьбы прыехаць і разабрацца ў сітуацыі з першых дзён.

Запозненыя тлумачэнні ўлад часам выклікаюць яшчэ большае абурэнне. Да прыкладу, у афіцыйным паведамленні на сайце Віцебскага гарвыканкама сцвярджаецца, што былі знесены нейкія струхлелыя хібары. Між тым увесь інтэрнэт абышлі фотаздымкі, на якіх экскаватар руйнуе добры цагляны дом...

Урэшце, самым “знішчальным” доказам прадстаўнікі ўлад лічаць тое, што ўсе жыхары Паўловічаў атрымалі кватэры ў якасці кампенсацыі за хаты, вызначаныя 20 год таму пад знос. І дадаюць: няхай бы адмовіліся ад гарадскіх кватэр! Аднак якраз такі прэцэдэнт і быў. Убачыўшы, што абяцанага ў 1992 годзе будаўніцтва няма, некаторыя вяскоўцы пачалі высвятляць: калі насамрэч адмовіцца ад гарадскога жытла, ці змогуць яны вярнуцца на старое месца? Толькі такіх гарантый ім ніхто не даў.

Рэспубліканская праваабарончая арганізацыя “Беларускі Хельсінкскі камітэт” звярнулася да пракурора Віцебскай вобласці з просьбай даць ацэнку таму, што адбылося. Праваабаронцы, са свайго боку, бачаць ва ўсім гэтым шэраг парушэнняў заканадаўства.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

SOS!

# Крутят-мутят



Обращаемся в газету по вопросу ремонта нашего дома.

Дом построен в 1910 году, так говорили старожилы. Но по государственным документам — в 1938-м. Как бы там ни было, но со времени постройки не было ни одного капитального ремонта. В 1985 году были выделены деньги в сумме 5 миллионов рублей. Но что сделали — так это поменяли полы и переклеили обои.

Дом наш двухэтажный, деревянный. До сих пор в нем печное отопление. На второй этаж воду носить (и выносить) нужно ведрами. В 2011 г. на втором этаже упал потолок. Приехал к нам мэр нашего города А.М.Маркевич и сказал: “Каменный век!” Обещал в 2012 году поставить дом на капитальный ремонт.

Обращения по ремонту дома идут с 1989 г. Куда мы только не обращались! Начиная с местных властей и заканчивая президентом. Но получается какая-то круговая порука: ходят все обращения по кругу с остановкой в Новогрудке, в райисполкоме, и ничего не решается.

Обещали начать ремонт в III квартале этого года. Потом передумали. В сентябре был у нас опять мэр нашего города с комиссией. Дело в том, что у нас уже все гнилое. Дыры — прямо в квартире. Стены поточены древоточцем. Фундамент весь треснул и пошел в стороны. Мэр сказал: “Ремонтировать, а если не подлежит ремонту — выселить людей и дать квартиры”. Но не тут-то было, опять передумали. Пришли работники ЖКХ заделали дыры и сейчас говорят нам, что ремонт будет весной.

Опять что-то крутят, мутят. Вот какое издевательство! А главное, нигде ничего не добиться. Вроде обещают-утешают, а на самом деле делают все наоборот.

Дом пятиквартирный. Три квартиры приватизированы, а две — государственные. В 1991 году, когда выкупали квартиры, износ дома был поставлен 55 процентов, а в 2912 г. — 48 процентов. То есть как-то омолодился дом! Уже по этому можно судить об отношении к людям. Как в анекдоте. Ходят упорные слухи, что ремонта и весной не будет. Дешевле построить новый, чем ремонтировать этот. Потому что нужно разбирать и начинать с фундамента. Мы звонили на “горячую линию” шесть дней. Но ответа не получили. Куда еще можно обратиться с просьбой о помощи, а главное — ее получить? Опубликуйте, пожалуйста, наш крик души.

**Жильцы дома №10 по ул.1 Мая:**
**В.И.Бобровский,**
**Т.И.Сорокопыт,**
**В.Н.Валентюкевич,**
**Г.К.Шарова,**
**Ю.Э.Мазуро.**

*г.Новогрудок.*

## *У Слоніме адстаялі вуліцу Еўфрасінні Полацкай*

Новая вуліца ў адным з мікрараёнаў Слоніма атрымала імя Еўфрасінні Полацкай, апякункі і нябеснай заступніцы беларускай зямлі.

Гараджане змагаліся за гэта з вертыкальшчыкамі.

Новую вуліцу яшчэ летам тапанімічная камісія райвыканкама прапанавала назваць вуліцай 10 ліпеня, таму што ў гэты дзень Слонім быў вызвалены ад немцаў у гады Другой сусветнай вайны. Але такая назва не спадабалася ні жыхарам гэтай вуліцы, ні творчай інтэлігенцыі горада, ні сябрам Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл. Яны ўсе разам напісалі адкрытыя лісты ў райвыканкам, свае прапановы і меркаванні па назве новай вуліцы, арганізавалі дзясяткі тэлефонных званкоў супраць лічбавай назвы вуліцы.

Людзі прапаноўвалі назваць вуліцу ў гонар аднаго са сваіх землякоў ці ў гонар Еўфрасінні Полацкай. І гараджане перамаглі.

**Міхась ЛЯЎЧУК,**
**Слонім.**

